**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№47(659)**
**22 лістапада 2012 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае




Апошнія дні восені.



## МНС інфармуе на 20.11.2012 года:

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 1010;
Гібель людзей – 134, з іх 3 дзіцяці;
Урон – 5313.1 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 42;
Гібель людзей – 9, з іх дзяцей няма;
Урон – 298 150 000 руб.

Шаркоўшчынскі раён

# На адзін доўгабуд меней

■ Станіслаў Раманчук

**У гэтым годзе ў Віцебскай вобласці па праграме развіцця аховы здароўя намецілі адрамантаваць, мадэрнізіраваць і ўзвесці 62 розныя аб'екты галіны.**

Адным з самых значных з іх стала днямі ўрачыстае адкрыццё і ўвядзенне нарэшце ў эксплуатацыю новай райбальніцы Шаркоўшчынскага раёна. Гэты арыгінальны трохпавярховы бальнічны гарадок, праўда, планавалі здаць бягучым летам, але не паспелі. Вельмі даўно старая драўляная бальніца на ўскрайку райцэнтра патрабавала сабе замены. Новую пачалі будаваць яшчэ напрыканцы мінулага стагоддзя, у далёкім ужо 1997 годзе. Аднак гэты аб'ект сацыяльнай сферы – не стаў прыярытэтным, як тыя ж Лядовыя палацы ў глыбінцы. Само будаўніцтва раённага шпіталя зацягнулася на 15 доўгіх гадоў з-за недахопу фінансавання. Аднак хоць выйшла лепей пазней, чым ніколі. Новае кіраўніцтва вобласці вырашыла давесці справу да канца і пераканала беларускі ўрад выдзеліць частку сродкаў на завяршэнне работ. Таму на ўрачыстую і хвалюючую падзею ў райцэнтр прыехаў кіраўнік аблвыканкама Аляксандр Косінец, сам медык па прафесіі. Для 17 тысяч жыхароў раёна адкрыццё райбальніцы -таксама прыемная падзея, бо і яны цяпер маюць сучасную ўстанову па ахове здароўя на 95 ложкаў, свой радзільны дом, дзіцячае і іншыя аддзяленні па суседстве з райпаліклінікай. Клініку пастараліся аснасціць патрэбным у глыбінцы медабсталяваннем і апаратурай. Ёсць надзея, што ў наступным годзе ўдасца завяршыць падобны шматпакутны доўгабуд з райбальніцай і ў суседнім райцэнтры Мёры.

Пастаўскі раён

# І да гандлю – комплексны падыход

■ Кастусь Александровіч

**Ва ўсіх сферах жыцця зараз неабходна гібка рэагаваць на патрэбы спажыўцоў, каб не адстаць і не прайграць у канкурэнтнай барацьбе.**

Такім правілам стараюцца кіравацца работнікі праўлення Пастаўскага райпо, аднаго з вядучых падраздзяленняў у сістэме "Белспажывсаюза". Вось і сёлета ў райцэнтры ўслед за адкрыццём у пачатку восені сучаснага кулінарнага камбіната з аб'ёмамі выпечкі да 3 тон штодзень у адным з буйных мікрараёнаў горада быў адкрыты пасля рэканструкцыі яшчэ адзін супермаркет гандлёвай сеткі "Родны кут". Ён павялічыў у 2 разы свае гандлёвыя плошчы і заняў практычна ўвесь першы паверх 5-павярховага жылога дома. У Паставах, як і ў іншых аб'ектах падобнай гандлёвай сеткі па краіне, выкарыстоўваюцца сучасныя гандлёвыя тэхналогіі поўнасцю самаабслугоўвання і ўнікальныя аб'ёмныя халадзільныя лары, якія ацяпляюць само памяшканне. Канешне ж, тут устанавілі камп'ютарную сістэму ўліку руху тавараў і зручных разлікаў па ёй. Адразу пасля адкрыцця гандлёвага цэнтра, у якім прадстаўлены і тавары прамысловай групы і секцыя жывых кветак і вазонаў, тавараабарот павялічыўся больш чым у 2 разы. Раней побач з крамай дзейнічаў піўны бар, які перамясціўся па суседстве ў новы буйны аб'ект прыдарожнага сервісу па трасе на Браслаў. Акрамя гэтага ў райцэнтры пачалі ўзвядзенне самага буйнога, трэцяга па ліку, супермаркета паблізу Палаца Тызенгаўза, які адкрыюць будучым летам, абновяцца крамы хутка ў Варапаеве і ў Лучаі.

Браслаўскі раён

# Няма калі сумаваць

■ Чэслаў Якубовіч

**Толькі недалёкія і безініцыятыўныя людзі могуць сцвярджаць, што ў глыбінцы жыць нецікава, сумна, няма дзе праводзіць вольны час.**

А вось у Браслаўскім раёне прытрымліваюцца іншага меркавання, тым больш, што і прырода тут у азёрным краі адна з найпрыгажэйшых у Беларусі. Мясцовы фестываль "Браслаўскія зарніцы" набыў вялікую папулярнасць і статус міжнароднага культурнага фэсту. У мясцовым музейным аб'яднанні сталі праводзіць вяселлі з беларускім нацыянальным каларытам. Сёлета з поспехам прайшоў конкурс на выключна лепшых прыгажунь Браслаўшчыны, а таксама лазневы фестываль сярод аматараў парылкі. Да наступлення халадоў тут паспелі паспяхова правесці ў другі раз раённыя спаборніцтвы-конкурс "Браслаўскі грыб-2012". На іх акрамя каманд прадпрыемстваў, арганізацый і гаспадарак краю, якіх сабралася 16, дапускаліся асобныя сем'і і індывідуальныя ўдзельнікі. У прыгожым лясным масіве за паўдня трэба было назбіраць як мага болей дароў лесу, але толькі 8 відаў грыбоў дапускаліся да падвядзення вынікаў у вызначаны час. Каб групы падтрымкі ўдзельнікаў не сумавалі, для іх арганізавалі культурную праграму, грыбную вікторыну. У лес пайшоў збіраць грыбы і нават 2-гадовы хлопчык з бацькамі, а самы ўдалы грыбнік (Браніслаў Юран) знайшоў больш за ўсіх - 30 баравікоў. На здзіўленне журы, лепшымі грыбнікамі аказаліся гараджане: болей за ўсіх, амаль 40 кг, сабрала грыбоў каманда філіяла "Белаграпрамбанка", на 3 месца выйшаў калектыў мясцовага хлебазавода. Узнагароды за 2-е месца ў камандным заліку павезлі дамоў работнікі лепшага сельгаспрадпрыемства краю – "Маяк Браслаўскі", якія разам сабралі 35 кг дароў лесу.

### Надвор'е ў Глыбокім — www. rp5ru

| Мясцовы час | Чацвер 15.11.12 | | | | Пятніца 16.11.12 | | | | Субота 17.11.12 | | | | Нядзеля 18.11.12 | | | | Пнд.19.11.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +2 | +2 | +3 | +4 | +3 | +3 | +3 | +3 | +2 | +2 | +1 | 0 | -2 | +1 | +2 | +2 | +1 | +1 | +1 |
| Ціск | 760 | 759 | 758 | 757 | 757 | 757 | 757 | 757 | 757 | 756 | 756 | 755 | 754 | 753 | 753 | 753 | 753 | 752 | 751 |
| Вільготнасць | 92 | 91 | 88 | 88 | 92 | 92 | 91 | 91 | 93 | 93 | 85 | 82 | 83 | 91 | 93 | 92 | 97 | 95 | 88 |
| Вецер м/сек | 4 Пд | 4 Пд | 4 Пд | 5 Пд | 5 Пд | 4 Пд | 4 Пд | 3 Пд | 3 Пд | 3 Пд | 4 Пд | 4 Пд | 4 Пд | 4 Пд | 2 Пд-З | 2 Пд-З | 1 З | 1 Пд | 3 Пд |

# Аб самым надзённым

## Павышэнне даходаў насельніцтва павінна падмацоўвацца рэальным ростам эканомікі




■ Аляксандр Цішкевіч

**Высокія тэмпы, што мы ўжо праходзілі, павышэння даходаў насельніцтва павінны падмацоўвацца рэальным ростам эканомікі і прадажамі беларускіх тавараў за мяжу. Інакш, хочаш - не хочаш, будуць расці цэны і будзе моцны ціск на нацыянальную валюту.**

У пачатку лістапада на постсавецкай прасторы толькі на зямлі беларускай на дзяржаўным узроўні наша адзіная краіна адзначыла "дарагую сэрцу ўрачыстасць" – 95-ю гадавіну Вялікага Кастрычніка. Прайшлі паўсюдна з гэтай нагоды ўрачыстыя сходы, арганізавана ўсклалі кветкі да помнікаў па-ранейшаму неўміручага Леніна, дзе-нідзе яшчэ наладзілі святочныя канцэрты. Але для большасці суайчыннікаў 7 лістапада пасярод працоўнага тыдня з'явіўся толькі дадатковым выхадным днём, калі можна было болей адпачыць і вырашыць свае неадкладныя справы.

А вось акрамя адкрыцця да 95-й гадавіны рэвалюцыі новых станцый метро ў беларускай сталіцы і бальніцы-доўгабуда ў маленькім гарадку Шаркоўшчына прыйшлося ўладам Беларусі зноў звярнуцца (яшчэ ў маі) за крэдытнай дапамогай усё ў той жа МВФ. Місія гэтай вельмі ўплывовай міжнароднай арганізацыі на працягу амаль двух тыдняў працавала ў нас і правяла 3-ці сістэмны аналіз-маніторынг стану айчыннай эканомікі. Так супала, што аднachасова намесніцкія даследчыя сацслужбы прызналі нас разам з жыхарамі Малдовы і Косава самымі беднымі сярод 42 краін Еўропы.

Згодна іх даследванням, беларусы зарабляюць цяпер у 10 разоў меней, чым у сярэднім еўрапейцы, сярод якіх самым багатым аказаўся Ліхтэнштэйн, кожны жыхар якога за год можа патраціць на пакупкі амаль 29 тысяч еўра. Нават у ахопленых крызісам іспанцаў пасля абавязковых выплат падаткаў застаецца ў сярэднім 13 тысяч еўра на год. У нас жа стратэгічная задача зноў паспрабаваць выйсці ў канцы года на паказчык намінальнай 500-доларавай зарплаты. Гэту тэндэнцыю, зразумела, эксперты МВФ заўважылі і прама заявілі, што нават захаваць цяперашні, даволі нізкі ўзровень жыцця насельніцтва Беларусі не ўдасца пры існуючай эканамічнай палітыцы.

І вось ужо нават у беларускай сталіцы пайшлі праверкі па загадзе ўлад абгрунтаванасці росту заробкаў. Справа ў тым, што нельга іх павышаць штучна пад чарговыя выбары ці выконваючы рашэнні розных Усебеларускіх сходаў. Законы эканомікі суровыя, іх нельга падмануць. Вось зверху на гэты год была пастаўлена задача забяспечыць рост ВУП на 5 %, а на наступны 2013 год замахнуліся нават на 8,5 %. Ад гэтых вось дырэктыўных рубяжоў, а ў перспектыве на 2015 год гавораць у кулуарах нават пра заробкі пад 1000 долараў – усе нашы цяперашнія праблемы.

Высокія тэмпы, што мы ўжо праходзілі, павышэння даходаў насельніцтва павінны падмацоўвацца рэальным ростам эканомікі і прадажамі беларускіх тавараў за мяжу. Інакш, хочаш - не хочаш, будуць расці цэны і будзе моцны ціск на нацыянальную валюту. Што мы назіраем сёлета? Правільна, гадавая інфляцыя набліжаецца пад 20 %. Расія ўжо ўступіла і жыве па правілах Сусветнай гандлёвай арганізацыі, што прывяло да ўзмацнення канкурэнцыі для беларускіх вытворцаў. У рэальным жыцці ўжо пад мільён беларусаў, самых кваліфікаваных работнікаў за межы краіны ў пошуках больших заробкаў.

Да прыкладу, толькі ў нас на Віцебшчыне за 3 кварталы года з'ехалі ў асноўным у Расію болей 18 тысяч будаўнікоў, вадзіцеляў, праграмістаў, вайскоўцаў і нават урачоў на працу ў новы федэральны медцэнтр у Смаленску. Правы ўласнікаў у нас у разлік не прымаюць, што прадэманстравала нацыяналізацыя кандытарскіх фабрык "Камунаркі" і "Спартак". Валюты краіне не хапае, і вось ужо другі год не знаходзіцца пакупнікоў на дзярждолю кампаніі сотавай сувязі МТС. Сальда знешняга гандлю, хутчэй усяго, стане па выніках года зноў адмоўным.

Насельніцтва нутром адчувае хісткасць беларускага рубля і ў кастрычніку зняла з дэпазітаў вядучых банкаў свае 13 мільярдаў рублёў. Глыбокіх структурных рынкавых рэформ як ні было, так і не прадбачыцца. Наша краіна можна гандляваць рэальна за мяжой і зарабляць валюту толькі рэалізуючы ў асноўным нафтапрадукты і калійныя ўгнаенні. Аднак толькі за 9 месяцаў сёлета нам прыйшлося выплаціць у расійскі бюджэт пошлін амаль на 3 мільярды долараў і суседзям гэтага аказалася мала. Пакуль жа самі беларусы прагаласавалі супраць увядзення дыферэнцыраванай сістэмы аплаты за спажытую электраэнергію, што стала непрыемным сюрпрызам для "Белэнерга" і для ўрада РБ. Мы ідзём сваім шляхам і імкнёмся стварыць каторы год "моцную і квітнеючую" Беларусь…

## Дзень за днём

**Беларуская эканоміка ўстанавіла антырэкорд года: у верасні адмоўнае сальда знешняга гандлю склала мінус 358 млн. $ ( у жніўні мінус 342 млн. $ ). Крэмль яшчэ патрабуе вярнуць 1,5 млрд. долараў у расійскі бюджэт. Да самых бедных у Еўропе аднеслі даследчыкі жыхароў Косава, Беларусі і Малдовы. Прадстаўнікі Беларускай праваслаўнай царквы і Касцёла разам прапанавалі выключыць у Беларусі з медыцынскай практыкі аборты і сурагатнае мацярынства. У айчынных магазінах пачалі прадаваць штучныя ёлкі і ёлачныя ўпрыгожванні да прадстаячых калядных і навагодніх святаў. З новага года рэзка вырастуць для беларусаў акцызы і цэны на паліва, алкаголь і цыгарэты.**

# Важнейшыя навіны свету

**Сірыя**. Яшчэ больш пагоршылася сітуацыя ў краіне, ніводзін з бакоў не можа перамагчы ў грамадзянскай вайне, заявіў спецпасланнік ААН і ЛАГ Л. Брахімі, народ толькі пакутуе.

**Іспанія.** Узровень беспрацоўя іспанцаў дасягнуў гістарычнага максімуму 25,1 %, у крызісе і Грэцыя, у зоне еўра восенню сёлета без працы ўжо 11,6 % працаздольнага насельніцтва.

**Расія.** Прэм'ер-міністр Дзмітрый Мядзведзеў заявіў, што Сталін і іншыя савецкія бонзы той эпохі варты асуджэння і самай жорсткай ацэнкі, бо вялі вайну з уласным народам.

**Літва.** На спецыяльным сайце ў краіне пачалі публікацыю дадзеных аб 1669 агентах і інфарматарах, тайных памагатых, завербаваных КДБ СССР з 1940 па 1979 гады.

**Бахрэйн.** Пасля некалькіх жорсткіх сутычак пратэстуючых людзей з паліцыяй улады забаранілі ў краіне любыя дэманстрацыі і мітынгі да "аднаўлення адзінства нацыі".

**Узбекістан.** Адразу 3 жыхарак Сурхандар'інскай вобласці пасадзілі на 14 гадоў у турму, кожную за "здраду радзіме" і за быццам шпіянаж на карысць суседняга Таджыкістана.

**Нігерыя.** У выніку спецаперацыі мірным шляхам, без выплаты выкупу вызвалілі групу захопленых марскімі злачынцамі маракоў, сярод іх і беларуса Сяргея Кургановіча.

**КНДР.** Упершыню на публіцы з'явілася Лі Соль Чжу, жонка кіраўніка краіны Кім Чэн Ына, яна пабывала з мужам на канцэрце і на футбольным матчы, раней не было прынята.

**ЗША.** Ахвярамі бушаваўшага трапічнага ўрагану "Сэндзі" сталі каля 100 чалавек, у 16 штатах засталіся без падачы электрычнасці амаль 8 млн. сем'яў, затапіла моцна Нью-Ёрк.

**Італія.** У выніку моцных лівяў большая частка сусветнай славутасці горада Венецыі апынулася пад вадой, затапіла 58 % будынкаў, цэнтральнуя плошчу заліло на 60 см.

**Канада.** Вучоныя краіны завяршылі працу над жаночым аналагам віягрысродкам, які ўзмацняе сексуальнае ўзбуджэнне і павышае задавальненне дам ад любоўных уцех.

**Фінляндыя.** Фінскі ПЭН-цэнтр запрасіў у Хельсінкі ўмоўна асуджанага экскандыдата ў прэзідэнты, паэта Уладзіміра Някляева на прэзентацыю яго перакладзенай кнігі паэзіі.

**Англія.** Паліцыя Уэльса раскрыла забойства 7-гадовага хлопчыка, яго забіла 32-гадовая маці-мусульманка за нязадольнасць вывучыць Каран і падпаліла цела, каб схаваць улікі.

**Ватыкан.** З-за вялікага наплыву людзей і пагрозы творам мастацтва дырэкцыя музеяў Ватыкана абмежавала доступ у Сікстынскую капэлу роспісу Мікеланджала 500 год назад.

**Францыя.** Бойфрэнд тэнісісткі № 1 беларускі В. Азаранкі ўкраінец С. Бубкамалодшы няўдала выпаў з акна кватэры на 3-м паверсе ў Парыжы і атрымаў цяжкія траўмы.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Айчынны спорт ізноў узначалілі сілавікі: генерал МНС А. Шамко - на чале Мінспорта, генерал пагранвойскаў І. Рачкоўскі стаў І-м віцэ-прэзідэнтам НАК Беларусі.

**Смалявічы.** Буйнейшы ў краіне вытворца мяса птушкі, кампанія "Сервалюкс" (брэнд "Пятруха") набыў мясцовую бройлерную фабрыку "Браты Грыль", пабудуе новы цэх.

**Баранавічы.** Падчас работ па дэмантажу былой запраўкі воінскай часці ўпала бетонная пліта і смяротна параніла салдата тэрміновай службы, прызванага з Брэсцкай вобласці.

**Мінск.** Два інспектары ДАІ Мінскага раёна – маёр і капітан міліцыі папаліся за атрыманне хабару ў 1 мільён рублёў ад вадзіцеля, ён парушыў правілы дарожнага руху і быў адпушчаны.

**Мазыр.** Гарадскі суд на выязным пасяджэнні ў мясцовай калоніі № 20 вырашыў накіраваць палітвязня Зміцера Дашкевіча ў крытую турму адбываць пакаранне да канца тэрміну.

**Горкі.** Ураджэнец райцэнтра, 29-гадовы Дзмітрый Юрчанка заснаваў у Маскве сваю фірму дапамогі пажылым "Кнопка жыцця" і сёлета атрымаў 45 мільёнаў долараў прыбытку.

**Гродна.** Гісторыка-беларуску з Гданьска Алену Глагоўскую не пусцілі ў Беларусь наведаць тут магілы продкаў і паўдзельнічаць у міжнароднай навуковай канферэнцыі.

**Барысаў.** Папулярную рэгіянальную недзяржаўную газету "Барысаўскія навіны" не ўключылі ў падпісны каталог "Белпошты", яе не сталі прадаваць 15 кропак гандлю.

**Магілёў.** Да 6 гадоў турмы пагражае траім вучням 10-га класа, якія вечарам сустрэлі, абрабавалі і нават разулі на адной з вуліц горада 29-гадовага нецвярозага гараджаніна.

**Калінкавічы.** Прыехаўшы ў госці да родных з Мазыра ў вёску Прудок, міліцыянер выпадкова знайшоў тут скрадзены ўгнаны двумя раней судзімымі злачынцамі аўтамабіль.

**Пружаны.** У калектыўным пісьме ў раённую газету "Раённыя будні" рабочыя Ружанскай мэблевай фабрыкі паскардзіліся на нізкія заробкі, яны не павышаліся 2 гады, а аванс складаюць 20 тысяч.

**Ваўкавыск.** На добрым падпітку малады хлопец прычапіўся і абрабаваў дзяўчыну, але заснуў у кустах ля стадыёна, дзе яго неўзабаве затрымала міліцыя, сваю віну ён прызнаў.

**Мінск.** Да 1 студзеня 2013 года закрыецца сталічны рынак "Дынама", А. Лукашэнка запатрабаваў тут за 2 гады пабудаваць кампактны, еўрапейскага ўзроўню стадыён.

**Столін.** На выязным пасяджэнні ў райцэнтры Брэсцкі абласны суд асудзіў двух падлеткаў-забойцаў 13-гадовай школьніцы ў навагоднюю ноч на 15 і 11 гадоў турмы.

**Мінск.** Абурэнне многіх пітушчых, малааплатных мінчан выклікала забарона ўлад горада з 1 снежня не прадаваць "чарніла" – пладовыя мацаваныя віны на працягу 2-х месяцаў запар.

# «Беларусбанк» растлумачыў спыненне выдачы крэдытаў на жыллё



■ Telegraf. by

**«Беларусбанк» прыпыніў выдачу крэдытаў на набыццё жылля толькі да канца 2012 года. Пра гэта паведамілі ў прэсслужбе «Беларусбанка» ў сувязі з рашэннем праўлення банка аб прыпыненні выдачы крэдытаў на набыццё індывідуальных жылых дамоў і кватэр.**

Як адзначылі ў банку, гэтае рашэнне прынята ў сувязі з неабходнасцю першачарговага напрамку грашовых сродкаў на рэалізацыю дзяржпраграмы жыллёвага будаўніцтва і забеспячэнне выканання зацверджаных заданняў па ўводзе жылля ў 2012 годзе.

Пастановай урада Беларусі ад 30 снежня 2011 № 1788 «Аб мерах па выкананні заданняў на 2012 год па будаўніцтве жылых дамоў» «Беларусбанку» ўстаноўлены аб'ём выдачы крэдытаў на будаўніцтва (рэканструкцыю) і набыццё жылля на ўмовах, вызначаных банкам, у памеры 250 мільярдаў рублёў .

Сума выдадзеных грамадзянам на 15 лістапада крэдытаў на гэтыя мэты і прынятых абавязацельстваў па заключаных крэдытных дагаворах перавышае зацверджаны ўрадам гадавы аб'ём фінансавання, паведамілі ў банку.

У «Беларусбанку» ўдакладнілі, што прынятае банкам рашэнне не распаўсюджваецца на крэдыты для маючых патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў шматдзетных сем'яў, якія маюць трох і больш непаўналетніх дзяцей.

Таксама банк разгледзіць заявы грамадзян на выдачу крэдытаў на набыццё жылля, прынятыя да 16 лістапада гэтага года.

Як перадаваў Тэлеграф, «Беларусбанк» прыпыніў з 16 лістапада гэтага года выдачу крэдытаў на куплю жылля. Раней у «Беларусбанку» не маглі сказаць канкрэтна, калі адменяць уведзеныя абмежаванні па гэтам крэдытаванні.

Банк па-ранейшаму працягвае выдаваць крэдыты на будаўніцтва жылля, і гэта крэдытаванне будаўніцтва ажыццяўляецца ў поўным аб'ёме. Таксама банк працягвае весці і льготнае крэдытаванне.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Работнікі авіякампаніі "Вітавія" падалі ў суд на працадаўцу-чэшскую фірму, якая перастала ім плаціць з мая заробкі з-за ўласных праблем і біюракратыі Мінтранса РБ.

**Наваполацк.** Напярэдадні свайго 35-годдзя завод керамзітнага гравія запусціў новую лінію коштам 10 млн. еўра па вырабу сучасных будаўнічых блокаў шырынёй 40 см.

**Орша.** У мясцовую турэмную туберкулёзную бальніцу зноў даставілі з папраўчай калоніі № 5 з Івацэвіч яшчэ 10 хворых, раней восенню адтуль прывезлі 25 захварэўшых вязняў.

**Полацк.** З-за незадавальнення нізкімі заробкамі і ўмовамі працы яшчэ каля ста рабочых мясцовага "Полацк-Шклов алакно" напісалі заявы аб выхадзе з афіцыйнага прафсаюза.

**Глыбокае.** Расійскі тэлеканал "НТБ" у выпуску навін паказаў, як навучэнцаў прафліцэя прымушалі ратаваць лён з-пад снегу, але з-за цэнзуры ў Беларусі гэты сюжэт не паказалі.

**Гарадок.** Ураёненайбольшыя ў вобласці даўгі людзей за камунальныя паслугі, 26 тысяч сем'яў Віцебшчыны вінаваты 3,5 млрд. рублёў, а 10 з іх выселілі з займаемых кватэр.

**Лёзна.** Паблізу граніцы з Расіяй ля вёскі Заольша затрымалі грузавік з партыяй 20 тон незаконна вывозімай ялавічыны, арыштаванае мяса перадалі Віцебскаму холадакамбінату.

**Дуброўна.** Падчас аперацыі "Нелегал-2012" на тэрыторыі раёна міліцыя выявіла 10 такіх замежных грамадзян, дваіх жыхароў Афганістана прымусова дэпартавалі з Беларусі.

**Паставы.** На трох асноўных кацельнях у райцэнтры райкамунгас устанавіў новыя катлы з механічнай загрузкай шчапы, цяпер гараджанам можна круглы год даваць гарачую ваду.

**Шаркаўшчына.** У беспрацоўнага з райцэнтра міліцыя канфіскавала на дарозе ля вёскі Царкоўна Верхнядзвінскага раёна 2,5 тоны ялавічыны, на мяса не было ніякіх дакументаў.

**Віцебск.** Ля помніка Пушкіну ў абласным цэнтры паставілі прыгожую металічную лаўку для закаханых пар даўжынёй 1,7 метра ў стылі ар-дэко, упрыгожаную архідэямі.

**Глыбокае.** Па выніках двух адборачных тураў у фінал раённага дзіцячага конкурсу ў РДК "Вясёлыя галасы" выйшлі 25 маладых таленавітых выканаўцаў і 3 вакальных ансамблі.

**Докшыцы.** Раніцай трактарыст мясцовага лясгаса на АЗС не заўважыў стаяўшы тут аўтамабіль і, едучы заднім ходам, наехаў і пашкодзіў іншамарку, быў пакараны штрафам.

**Віцебск.** Пасля 4-х гадоў дзейнасці ў ЛПП 4% для алкаголікаў пачалі рэканструкцыю спальнага корпусу на 700 месц і сталовай сіламі саміх асуджаных, усіх на тэрмін 1 год.

**Лепель.** Рэкордную за ўсе часы назіранняў колькасць снегу вышынёй 26 см зафіксавалі ў райцэнтры пасля моцных восеньскіх снегападаў, шмат яго выпала ў Полацку і Віцебску.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Модэль «Толькі багна



– Вось тут і быў Модэль Бор, дзе некалі жылі вашыя родзічы!– кажа Рыгор Пятровіч Пяцько, ляснічы Тумілавіцкага лясніцтва.

**Заканчэнне.**
*Пачатак у № 46(658) ад 15.11.2012.*

■ **Уладзімір Скрабатун**

## У Модэль Бор наведваюцца мядзведзі

Па дарозе на Модэль Бор адкрываліся прыгожыя пушчанскія краявіды. Хаця й тут прыйшлося часам ехаць па грэблі, але іншай, не Юнацкай. Першая, другая грэблі… Шмат невысокіх пагоркаў, пакрытых мохам, верасам і чыстымі светлымі лясамі: сасна й бяроза. Божухны! А грыбоў колькі! Эх, не дазваляў час спыніцца хоць на паўгадзіны. Я б тут адарваўся! А кажуць, што ў пушчы не засталося месца, дзе б не ступаў бот грыбніка. Засталося!!!

– Сюды з Бярэзінскага запаведніка наведваюцца мядзведзі. Сам бачыў мядзведзіху з мядзведзянятамі,– сцвярджае ляснічы.

– Дык трэба ставіць папераджальныя знакі! Небяспечна!– непакоіцца Вітольд Каржанеўскі.

– Нашы мясцовыя ведаюць! Дарэчы, забягаюць сюды і ваўкі. А рысі, якія тут таксама сустракаюцца, наносяць вялікую шкоду пярнатым: палююць на глушцоў і цецярукоў.

І тут, хаця-нехаця, аўтар згадаў, што ўлетку яму распавялі байку аб тым, як ва ўрочышчы Чорны Ручай грыбнікі нечакана ўбачылі мядзведзя. Грыбнікі спалохаліся, а мядзведзь спалохаўся грыбнікоў – усе разбегліся ў розныя бакі, грыбнікі пры гэтым “шухеры” яшчэ й пакідалі кошыкі. Вось і не вер цяпер байкам, калі сам ляснічы кажа, што мядзведзі ў пушчы ёсць!

## Даехалі! Модэль Бор!

– Вось тут і – Модэль Бор! Спыняемся! Выходзім! – камандуе спадар Р.П. Пяцько.

Наўкола – сасновы бор. Нішто цяпер не нагадвае аб засценку Модэль Бор… Няма ўжо таго вялікага поля на фоне засценка, што мы бачылі на здымках 1930-х гг. Толькі высокія карабельныя сосны і лясная дарога, ненакатаная коламі машын і гусеніцамі трактароў, парослая травой, – колішняя «вуліца» Модэль Бора.

– Модэль Бор не проста ўрочышча – месца колішняга паселішча – але і вялікі лясны масіў у Галубіцкай пушчы, які займае плошчу ў 600 гектараў,– тлумачыць ляснічы.

Хто б мог падумаць, але ў высокай траве і зарасніках маліннiку, яшчэ ўгадваюцца абрысы падмуркаў, на якіх стаялі драўляныя пабудовы. На гэта ўказваюць камяні, якія стаяць чарадой у форме прамавугольнікаў.

Камянёў жа ў пушчы проста так няма, як не шукай, а толькі багна і пяскі. Калі ляжыць камень у глыбіні пушчы, то ён можа быць толькі прывезеным! У пушчы няма і гліны. Калі будаваць дом і печку ў ім – усё трэба прывозіць!

– А вось, у сярэдзіне – цэгла і гліна. Тут, мабыць, стаяла печ,– паказвае Рыгор Пятровіч. Пані Марыся нахілілася і ўзяла з сабой кавалак цагліны – на памяць аб Модэль Боры.

– Сасновы лес спелы тады, калі яму сто гадоў, значыць пілаваць яго можна толькі тады, калі сасне настане сто адзін год. Гэтаму ж лесу – каля сямі дзясяткаў гадоў,– тлумачыць ляснічы. У пушчы не практыкуецца вырубка лесу вялікімі плошчамі, а толькі невялікімі дзялянкамі і ў розных месцах, усё ж Галубіцкая пушча – запаведны лес, заказнік.

## Як выжыць у пушчы, дзе “толькі багна і пяскі”?

– Як выжывалі людзі ў пушчы, дзе толькі багна і пяскі?– пытае ў ляснічага Вітольд Каржанеўскі.

– Як выжывалі? Збіралі і сушылі грыбы, везлі іх у Докшыцы – прадавалі яўрэям. Ягады! Яшчэ – паляванне ў пушчы, рыбалка на возеры Межужол.

– Напэўна, на гэтых пясках ніякая гародніна і збажына не прыносіла плёну?– цікавіцца Вітольд Каржанеўскі.

– Каб угнаіць гэтыя неўрадлівыя пяскі, трэба было трымаць шмат скаціны. Гной звозілі ў вялікую кучу перамешвалі з торфам – рабілі кампост. Штогод ім угнойвалі агароды – інакш ніякага плёну з гэтых пяскоў не будзе.

– Каб трымаць кароў, каней, авечак, патрэбныя пашы, а дзе тут магла расці добрая трава, калі наўкола толькі адна багна і пяскі,– настойвае Вітольд.

– Чаму! На балацінах расце не толькі вострая асака, якая можа параніць. Шмат добрай травы расце! Мурожная, напрыклад. Ды й не трэба цяперашніх кароў раўняць да тых, якія былі ў 1930-я гг. Цяперашнім падавай камбікорм, кукурузу! А раней – сам яшчэ памятаю – былі каровы чырвонай масці, якія на тых мурагах пасвіліся, давалі яны не так і шмат малака – літраў 10-12 – але малако было тлустым.

– Касілі мурагі, нарыхтоўвалі на зіму сена,– кажа ўпэўнена ляснічы, нібы й сам жыў у Модэль Боры ў 1930-ыя гг. Зразумела, гэта досвед вясковага жыхара. – Садзілі сады. Вось, дарэчы, і яблыня ад таго сада засталася.

Так, сапраўды, захавалася адна старая яблыня, якая схавалася пад шатамі вялікіх соснаў і разам з падмуркамі пабудоў усё яшчэ нагадвае аб засценку Модэль Бор.



– Возера Межужол. Тут і лавілі рыбу вашыя сваякі,– кажа Вітольду Каржанеўскаму Р.П. Пяцько, ляснічы Тумілавіцкага лясніцтва.

## Таямнічая назва – Модэль Бор

– А чаму засценак назвалі Модэль Бор?– пытае Вітольд Каржанеўскі.

– Не ведаю,– кажа ляснічы.

Уласна кажучы, і аўтар гэтых радкоў яшчэ да вандроўкі ў пушчу задаваўся такім пытаннем. Нібыта ў аснове слова «мадэль» і на мапе пачатку 1930-гг, калі паселішча яшчэ не належыла Рытароўскім, яно падпісанае як – «Modele». З часоў Рытароўскіх засценак фігуруе як Модэль Бор.

Кансультаваўся ў суседкі, выкладчыцы французскай мовы, але і тая нічога ўцямнага не сказала. Накшалт таго, што «мадэль» – гэта нешта новае, найноўшае.

Але ж слова «мадэль» у нас ужываецца ў спалучэнні з некалькімі словамі, напрыклад, «новая мадэль абутку», «новая мадэль аўтамашыны», «мадэльнае адзенне»... Між тым у нашым выпадку не «Мадэльны Бор», а «Модэль Бор». Так, з націскам на «о», вымаўлялі і самі палякі. Няхай так і застаецца, бо ўжо не прынцыпова, бо паселішча такога няма.

## Дайшоў са шведамі ад самой Палтавы!

На зваротным шляху заехалі на возера Межужол. Вялікае і прыгожае лясное возера – адно з рэштак таго разлеглага возера-мора, што пакінуў некалі пасля сябе ледавік.

– Вось тут вашыя родзічы з Модэль Бора і лавілі рыбу!– кажа ляснічы, нібы падсумоўваючы вынікі нашай вандроўкі.

Вітольд і Марыся ўглядаліся ў блакітную далечыню Межужола… Там, за паўночным берагам, кіламетраў пару, засталіся камяні падмуркаў Модэль Бора. Збылася мара варшавянаў! Сярод багнаў і пяскоў яны знайшлі тое, што хацелі ўбачыць.

– Палякі ёсць палякі!– кажу я Рыгору Пятровічу. Яны заўсёды будуць шукаць свае карані, прыязджаць у іншыя краіны, шукаць падмуркі дома, дзе колісь жылі іх родзічы. Беларусы – іншая нацыя: не трэба ім памяць аб сваіх продках, як не трэба і мова, і гісторыя, і культура... Бягуць, пакідаюць радзіму. Едуць у Амерыку, Расію, Польшчу. І больш не згадваюць аб сваіх каранях!

– Ну, гэта не зусім так!– пярэчыць ляснічы. Шукаюць і беларусы! І я таму прыклад. У мяне – украінскія карані, і прозвішча – тыпова ўкраінскае. Вось ездзіў я пасля арміі, гадоў 25 мне тады было, на Палтаўшчыну, наведваў архіў, знайшоў і паселішча, дзе жывуць адны Пяцькі, адкуль і паходзіць мой прапрапра…дзед. Прозвішча вельмі распаўсюджанае ў Палтаўскай і Сумской вобласці, а для Беларусі рэдкае, не тыповае.

– А было гэта так. Шведскае войска атрымала паражэнне ў 1709 годзе пад Палтавай ад войскаў расейскага цара Пятра І. Шведы паспешна адступалі на поўнач, адкуль і прыйшлі. Мабілізавалі моладзь, якая мусіла з коннымі фурманкамі дапамагаць шведам адступаць: везці боепрыпасы, розную амуніцыю, параненых…

Было сярод іх трое хлопцаў з аднае вёскі: двое родных братоў, трэці – стрыечны. Усе – Пяцько! Сярод якіх – мой прапрапра…дзед. Дайшлі са шведамі да ракі Бярэзіны, што тут, збоч пушчы цячэ. На пераправе праз Бярэзіну фурманкі захраслі ў глеістым дне ракі. Як ні стараліся іх выцягнуць з багны – не атрымалася. Без фурманак хлопцы шведам ужо былі не патрэбныя, ды й мусілі яны паспяшаць, бо “на пяткі” ўвесь час наступалі расейскія салдаты. Хлопцы пайшлі ў бліжэйшую вёсачку. Тады там было 7 двароў, а ў 1970-я – 73 двары. А дзяўчаты там прыгожыя! Засталіся, пажаніліся. Так тут і з’явіліся жыхары з тыповым украінскім прозвішчам – Пяцько.

– Я ведаю свой радавод да шостага калена... Мой прапрапрадзед зваўся Янам. Але ж 300 гадоў прайшло! 12 пакаленняў! Дзе ж ужо там на Палтаўшчыне знойдзеш канкрэтнага Пяцько са свайго радаводу!

– А быў яшчэ адзін выпадак. Мой дзед служыў у царскай арміі... Стаіць войска, адбываецца паверка асабовага складу, кожны, пачуўшы сваё прозвішча, павінен гучна адклікнуцца: “Я!”

– Пяцько?

– Я!

Да дзеда падыходзіць генерал па прозвішчу Пяцько і пытае:

– Маларосія (у сэнсе – Украіна)?

– Ні як не! Беларосія!

– Маларосія?– яшчэ раз удакладняе генерал.

– Ні як не! Беларосія!– ізноў кажа дзед.

– Генерал думаў, што мой дзед - ягоны зямляк, хоць быў не так ужо і далёка ад ісціны. Расчараваны генерал вярнуўся на сваё ранейшае месца.

## Паляванне на ваўкоў у Галубіцкай пушчы

Гэтая тэма не мае адносінаў да прыезду паньства Каржанеўскіх у Модэль Бор… Аднак мае наўпроставыя адносіны да часоў пражывання цёткі Вітольда Каржанеўскага, г.зн. да 1930-х гг, калі ў пушчу прыязджалі на паляванне высокапастаўленыя чыны Другой Рэчы Паспалітай, а менавіта прэзідэнты Ігнацій Масціцкі і Станіслаў Вайцяхоўскі. Натуральна, сёння не засталося жывых сведкаў тых падзеяў. Аднак гэты прабел кампенсуюць польскія архівы, якія цяпер выйшлі ў інтэрнэт. На сайце Нацыянальнага Лічбавага Архіву ёсць колькі здымкаў на тэму палявання ў Галубіцкай пушчы. Тры гады таму мы знаёміліся нашых чытачоў са здымкамі 1930-х гг маёнтка Галубічы, дзе бачная цэлая група паляўнічых, якія рыхтуюцца да ад’езду на санях на паляванне ў Галубіцкую пушчу.

Падсумоўваючы, можна сказаць, што багатая на дзічыну Галубіцкая пушча ў 1930-я гг была любімым месцам палявання вышэйшага кіраўніцтва Польшчы.

## Бывай, Модэль Бор!

17 верасня 1939 года ў наш край увайшла Чырвоная Армія, а праз два

# Бор і няскі»

гады, у чэрвені 1941 г, яго ўжо акупавалі немцы. Дзе знаходзіліся ўласнікі Модэль Бора? Адседжваліся ў Галубіцкай пушчы? Невядома. Аднак, праз шэсць гадоў Модэль Бор ізноў усплывае ў дакументах, але ўжо апошні раз у сваёй гісторыі. Станіслава Рытароўская, колішняя ўласніца Модэль Бора, паўстае цяпер як рэпатрыянка, г.зн жыхарка з тэрыторыі Польшчы, якая адышла пад уладу СССР. Станіслава Рытароўская мусіла прайсці працэс натуралізацыі, г.зн. юрыдычны працэс атрымання польскага грамадзянства.

У сямейным архіве Вітольда Каржанеўскага захаваліся натарыяльна завераныя дакументы. У адным з іх, чамусьці, Модэль Бор памылкова названы – Модэльбург. Ці натарыус, які складаў дакумент, нешта не дачуў, ці памыліліся, альбо проста забыліся дакладную назву сведкі... Але Модэльбург гучыць ужо нейк, нават, рамантычна.

*«Мы, што ніжэй падпісаліся, іжынер Станіслаў Раговіч, які пражывае ў Пясечным Варшаўскага павету па вуліцы Міцкевіча №5 і Уладзіслаў Вайдыла, які пражывае ў Пясечным па вуліцы Стаянскай №5, сцвярджаем, што Станіслава Рытароўская, якая пражывае ў Пясечным па вуліцы Сянкевіча №8, набыла ад Канстанціна Прашынскага паселішча «Модэльбург», іпатэчны № 4008, якое ўтворанае з зямельнай уласнасці ў Галубіцкай пушчы ў паветах Дзісенскім і Дунілавіцкім[1] з паверхняй каля 76 га з гаспадарчымі будынкамі і жылым домам без даўгоў, з моцы натарыяльнага акту ад 1931 г, які выкананы ў Натарыуса Станіслава Плішчыньскага ў Варшаве і ў адпаведнасці з іпатэчнай кніжкай (Аддзел Іпатэчны Акруговага Суда ў Вільні) фігуравала ў іпатэчным пераліку як сапраўдная ўласніца вышэйзгаданага паселішча «Модэльбург».*

*Вышэйзгаданыя сведчанні гатовыя ў любую хвіліну пад прысягаю падцвердзіць.*

*Пясечна, дня 14 жніўня 1945 г.»*

*(Пад дакументам – два подпісы).*

Праз 67 гадоў пляменнік Станіславы Габль-Рытароўскай – Вітольд – наведаў Модэль Бор... Пра Модэль Бор ізноў успомнілі.

Гэта – канец гісторыі?

**Заўвага:**
[1] да 1929 г., калі адбыліся змены ў тэрытарыяльным упарадкаванні, Тумілавічы, Докшыцы і Докшыцкая гміна належылі да Дунілавіцкага павету (сталіца г. Паставы).




**Галубічы. Паляўнічыя перад ад'ездам на паляванне ў Галубіцкую пушчу, 1930-я гг. Гэты палац у Галубічах, праўдападобна, згарэў у апошнюю вайну.**

**PS.** На жаль, гэты здымак канкрэтна не датаваны, то не вядома, хто з прэзідэнтаў Польшчы прыехаў. Ігнацій Масціцкі ці Станіслаў Вайцяхоўскі? Адзін са старэйшых жыхароў Галубічаў некалі згадваў, што Ігнацій Масціцкі, дакладна, прыязджаў на паляванне ў Галубічы.




**Паляванне на ваўкоў у Галубіцкай пушчы, якое арганізавана РВР «Francopol», 1931 г. Удзельнікі палявання ў Віленскім Клубе Паляўнічых. Прэзідэнт Станіслаў Вайцяхоўскі сядзіць за сталом у цэнтры.**

# Як быў выдадзены першы зборнік вершаў Міхася Машары?

## (Да 110-годдзя з дня нараджэння пісьменніка)

**Кліменцій Кожан,**
*м. Германавічы.*




**Паштовая марка з партрэтам Міхася Машары. На заднім плане – выява глыбоцкай царквы.**

**18 лістапада 2012 года споўнілася 110 год з дня нараджэння нашага земляка, паэта і пісьменніка Міхася Машары.**

Яшчэ ў верасні-кастрычніку 1982 года, калі адзначаўся 90-гадовы юбілей Зоські Верас, прачытаў у газетах і часопісах шэраг артыкулаў, з якіх даведаўся, што пісьменніца збіраецца скласці жыццёпісы многіх беларускіх дзеячаў, у тым ліку нашых землякоў – Пятра Ластаўкі з Ложных Жукаў, Янкі Пачопкі з Летнікаў, Міхася Машары, Язэпа Драздовіча, Пятра Сергіевіча і іншых.

Міхась Машара сябраваў з Янкам Пачопкам, часта бываў у Летніках. Язэп Драздовіч таксама часта заходзіў да Янкі Пачопкі, падоўгу жыў у яго, маляваў тут свае карціны і насценныя дываны. Сябры гаварылі пра Космас, чыталі свае творы, разам сустракалі святы, іншы раз і Новы год. Усіх іх добра ведала Зоська Верас.

Я рашыў тады сабраць матэрыялы аб гэтых паэтах, мастаках Язэпу Драздовічу і Пятру Сергіевічу. Для гэтага трэба было сустрэцца з Зоськай Верас. Напісаў ёй ліст у Вільню. Неўзабаве атрымаў запрашэнне прыехаць у час зімовых канікулаў 1983 года. Зоська Верас жыла на ўскраіне горада, у лясной глінабітнай хатцы, пабудаванай яшчэ да вайны. Аднаму дабрацца ў гэты лясны куток было немагчыма. Прывёў мяне сюды зяць Зоські Верас Лявон Антонавіч Луцкевіч.

Наша гутарка пачалася з творчасці Міхася Машары, які прымаў актыўны ўдзел у нацыянальна-вызваленчым руху ў Заходняй Беларусі. У пачатку 1927 года ён рэдагаваў газету "Наша воля", быў зняволены ў віленскую турму на Лукішках. У той час тут сядзела нямала беларусаў. Людвіка Антонаўна Сівіцкая-Войцік (Зоська Верас), працуючы адміністратаркай грамадаўскіх газет, апекавалася палітычнымі вязнямі. Прадуктовыя пасылкі, якія рыхтаваліся ў рэдакцыі, два разы на тыдзень, у чацвер і нядзелю, адносілі палітычным вязням вучні Віленскай беларускай гімназіі. Газеты, часопісы, кніжкі Зоська Верас сама адносіла ў пракуратуру, адкуль яны са штампамі пракуратуры адсылаліся ў турму. Лісты вязням і ад іх таксама праходзілі праз пракуратуру.

У хуткім часе Зоська Верас пачала атрымліваць ад Міхася Машары лісты. У іх ён пісаў, што адчувае сябе добра і займаецца самаадукацыяй, пачаў пісаць вершы па-беларуску. Лісты прыходзілі ад яго да Зоські Верас усё часцей і часцей. Ён прысылаў ёй свае вершы. Яны былі яшчэ слабыя, прымітыўныя. "З самага пачатку яго вершы крыху кульгалі, – успамінала Зоська Верас, – а чым далей, былі лепшыя і лепшыя. Мае заўвагі аўтар прымаў з удзячнасцю".

Пяць з гэтых вершаў былі надрукаваны ў дзіцячым часопісе "Заранка", які рэдагавала Зоська Верас. Апрача вершаў Міхась Машара прысылаў у "Заранку" і празаічныя творы: пераклады з польскіх аўтараў і ўласнае апавяданне "Ноч перад Новым годам". Знаходзячыся ў Зоські Верас, з цікавасцю прагледзеў некалькі нумароў часопіса "Заранка", прачытаў у ім вершы Міхася Машары "Восень", "Вітаю Новы год" і іншыя.

Вершаў Міхася Машары ў Зоські Верас набіралася ўсё больш і больш. "Складала я ўсе лісты з вершамі ў адмысловую папку і не пераставала думаць: што з імі рабіць, як іх выкарыстаць? Раскідаць па газетах не хацелася. Вось каб выдаць асобнай кніжкай? Хоць бы маленькай? Усё ж быў бы нейкі пачатак?"

Зоська Верас паказала мне першы зборнік вершаў Міхася Машары "Малюнкі". Танная папера, невялікая кніжачка, тыраж нейдзе 200-250 асобнікаў. "Напэўна, нялёгка было выдаць і такую кніжачку ў часы, калі не былі ў пашане беларуская мова і беларуская культура?" – запытаўся я ў Людвікі Антонаўны. І пісьменніца расказала, як была выдадзена гэтая невялікая кніжачка.

"Ніякіх сродкаў для выдання кніжкі не было. А што, калі паспрабаваць уласнымі сіламі? – падумала Зоська Верас. – У гэтай справе трэба было парадзіцца з наборшчыкамі, якія працавалі пры газеце "Наша воля". Было іх тры: Уладзімір Рэшатаў, Дудка і стары латыш Магнус. Першую скрыпку іграў Рэшатаў. Развіты, інтэлігентны і з вялікім пачуццём грамадзянскасці. Выбрала я 15 вершаў і пайшла з імі ў друкарню, – распавядала Зоська Верас. – Друкарня Я. Левіна на вуліцы Нямецкай, 22 была невялічкая, але чыстая, уласнік ветлівы. У першым пакоі працавалі наборшчыкі ды стаяў столік для карэктара, у другім – машына, гаспадарка машыніста, старога Пярловіча. Ён жа – памочнік уласніка друкарні.

Прывітаўшыся з усімі, Зоська Верас спыталася ў наборшчыкаў, ці маюць яны хвіліну часу, каб з імі пагаварыць.

– Зараз, зараз, вось толькі скончым гэты рукапіс, каб пасля не збіцца.

А панічка мае мусіць нешта новае на думцы? Так, чуе мой нос, – засмяяўся Рэшатаў.

– Праўда, маю, – адказала Зоська Верас. – Ну, але канчайце. Я пачакаю.

Чакаць прыйшлося нядоўга. Скончыўшы сваю працу, сабраліся наборшчыкі, прыйшоў Пярловіч, нават Левін. Зоська Верас расказала аб вершах Міхася Машары і аб сваёй душы.

– Што вы на гэта скажаце? – запыталася Зоська Верас.

– Ды што тут доўга гаварыць, - сказаў Рэшатаў, – набраць, адбіць і ўсё.

– Так, але грошы на гэта няма.

– А на што грошы? На паперу і друк. А набраць? Мы ўтрох за гадзіны дзве набяром, ці ж за гэта плату браць будзем?

– Ну і мне таксама плаціць не трэба, – сказаў Пярловіч, – толькі гаспадар друкарні хіба палічыць за фарбу, шрыфт і святло – і то няшмат…

А Левін усміхнуўся і кіўнуў галавой.

– Калі так, то ўсё добра, – сказала Зоська Верас. – Давайце аблічым, колькі трэба паперы, і я пайду яе купляць.

– А грошы?

– Гэта ўжо мая справа.

Зоська Верас купіла паперы, таксама на вокладку. Прынесла і адразу аддала разам з вершамі. Выкрасліла чырвоным алоўкам непатрэбнае, адзначыла выбраныя вершы і адразу распланавала.

Праз два дні Зосьцы Верас прынеслі карыктуру. Прайшло яшчэ некалькі дзён, і кніжачка Міхася Машары "Малюнкі" была гатова.

Зоська Верас пакінула для Міхася Машары аўтарскія экземпляры, а рэшту аднесла ў кнігарні на продаж.

– Несла кнігі і думала: выйдзе аўтар на волю – кнігарні з ім разлічацца… " – так закончыла Зоська Верас расповяд аб выданні першага зборніка вершаў Міхася Машары.

Калі паэт выйшаў з турмы, то меў некалькі злотых на пачатак свайго жыцця на волі.

Зоська Верас расказала таксама шмат цікавага пра Янку Пачопку, Пятра Ластаўку, Язэпа Драздовіча, Пятра Сергіевіча, падзялілася сваімі планамі аб напісанні "Партрэтаў віленчукоў". Наша гутарка працягвалася больш чатырох гадзін.

Назад ішоў не спяшаючыся, запамінаючы ўсе павароты лясной сцежкі. Да 1990 года тут прыйшлося прайсці не менш 40 разоў.

На жаль, "лясная хатка" Зоські Верас згарэла 13 мая 1990 года. Прычыну пажару ніхто не высветліў. Зосьцы Верас пра пажар не сказалі.

Калі б "лясная хатка" не згарэла, віленскія беларусы змаглі б тут адкрыць мемарыяльны музей Зоські Верас.

